„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 27 (123) БЕЛАСТОК, 6 ЛІПЕНЯ 1958 г. ГОД III

# ВЯЛІКАЯ ГАДАВІНА

15 ліпеня 1960 года грамадскасць Ольштынскага ваяводства, а таксама ўсёй Польшчы будзе святкаваць 550-годзе вялікага змагання польскіх, беларуска - літоўскіх і іншых войск на Грунвальдскім полі з Тэўтонскім ордэнам.

Бітва пад Грунвальдам — гэта вялікая падзея ў гісторыі не толькі польскага, але і беларускага народа. Праліта была супольна кроў за рашучую перамогу саюзных войск над войскамі ворага, які ў той час лічыўся непераможным.

Тэўтонскі ордэн, выкарыстоўваючы нязгоду Польшчы і Літвы бесперапынна нападаў то на адну, то на другую дзяржаву, захопліваючы землі і ўключаючы іх у межы сваёй, створанай на чужых землях дзяржавы. У выніку гэтых нападаў частка польскіх зямель (а ў тым ліку Паморскія землі) )была адарвана ад Польшчы. Польшча, такім чынам, была пазбаўлена доступу да Балтыйскага мора. Нешта падобнае адбылося і са Жмудзяй — энтаграфічнай часткай Літоўскай дзяржавы.

Небяспека, пагражаючая з боку Тэўтонскага ордэна прывяла да уніі польскую і літоўскую дзяржавы. У выніку таго, што беларускія землі ўваходзілі ў той час у склад Вялікага Літоўскага Княства, беларускія войскі сталі саюзнікамі польскіх вайсковых злучэнняў, змагаючыхся на Грунвальдскім полі.

Гэта супольная барацьба не на жыццё, а на смерць за сваю незалежнасць зрабіла Грунвальд сімвалам польска-беларускай дружбы.

Праўда, беларуская кроў не раз яшчэ была праліта на гэтых землях, успомніць хаця-б 1914 год, калі на землях былой Прусіі вялі змаганне дзве рускія арміі, у складзе якіх знаходзіліся і беларусы.

І ўжо зусім нядаўна, ў 1945 годзе, калі совецкія войскі вызвалялі гэтыя землі, беларуская кроў закладала фундаменты новага ладу і новага жыцця на гэтых землях.

Землі Вармії і Мазур, якія, такім чынам, былі ў мінулым кузняй незалежнасці народаў, сталі сёння кузняй дружнай працы. Як калісьці пад Грунвальдам змагаліся палякі, беларусы, украінцы і «мазуры з-пад Элку», так сёння ўсе яны дружнай працай адбудоўваюць з паваенных руін гарады і прыкладаюць вялікія намаганні да развіцця сельскай гаспадаркі. Дружба гэта праяўляецца і ў культурным жыцці. Не трэба гаварыць, якую вялікую ролю адыгрываюць тут хаця польскія, украінскія, беларускія і рускія песні.

Хочацца, аднак, сказаць аб арганізацыі 550-ай гадавіны гістарычных падзей Грунвальда. Ужо ў гэтым годзе «Людовае Свята» адбывалася на Грунвальдскім полі. Ці гэта не цэнная ініцыятыва Ольштынскага ваяводства? Думаю, што так. Многія ўдзельнікі гэтага свята пазналі бліжэй сваімі ўласнымі вачыма гэтае гістарычнае месца і навакольныя мясцовасці. А на аснове гэтага зроблена планы адзначэння 550-ай гадавіны.

Перш за ўсё ініцыятарамі іх з'яўляюцца грамадзяне, жыццё і праца якіх звязаны з гэтымі гістарычнымі месцамі. Ад іх выйшла прапанова, каб 550-ая гадавіна перамогі пад Грунвальдам мела міжнародны характар, каб ва ўрачыстасцях бралі ўдзел прадстаўнікі тых народаў, якія змагаліся ў гэтай бітве. Думаю, што такая прапанова вельмі каштоўная. Яна патрабуе ад нас, беларусаў, пражываючых у Польшчы, шырокай падтрымкі.

Ф. БЕРНІКОВІЧ

## Польскі друк аб канцэртах Шырмы

Увесь польскі друк з захапленнем піша аб канцэртах харавой капелы БССР. Прывядзем некалькі характэрных урыўкаў.

TRYBUNA LUDU: „...Zwyczajne brawa można uznać za grzecznościowe, ale publiczność z największej nawet kurtuazji nie domaga się bisów i to tak gwałtownie jak na środowym koncercie w Sali Kongresowej..."

ŻYCIE WARSZAWY: „...Wykonanie tych utworów (zwłaszcza właśnie „klasyków") dowiodło, że białoruski chór stoi na niezwykle wysokim poziomie muzycznym i kierowany jest z ogromną muzyczną kulturą (dobór głosów w tercecie!). Wielu świetnych wokalistów (wspaniałe, zawiesiste basy, śpiewające gdzieś aż w kontra-oktawie), doskonała dykcja (słyszało się dosłownie każdą zgłoskę), to wszystko przyczyniło się do sukcesu, jaki odniósł w Warszawie białoruski chór..."

SŁOWO POWSZECHNE: „...Najlepszą ocenę wysokich walorów artystycznych białoruskiego chóru były „wędrówki" zachwyconych widzów, którzy w ślad za zespołem przyjeżdżali do innych miast, by mieć możność przysłuchiwania się kilku koncertom. Również i po ostatnim występie białoruskich artystów odwiedzili ich za kulisami, przychodząc tu z serdecznym podziękowaniem za dostarczone przeżycia artystyczne, słuchacze pierwszych występów z Białegostoku..."

## Утворана Гарадскі Аддзел Беларускага грамадска — культурнага таварыства ў Беластоку

У панядзелак — 30 чэрвеня — у Беластоку адбыўся агульны сход мясцовага гуртка БГ-КТ, на якім быў утвораны Гарадскі Аддзел таварыства. Старшынёй праўлення аддзела выбраны Сакрат Яновіч.

## Можна набыць Руска-беларускі слоўнік

На складзе Выдавецкага Аддзела Беларускага таварыства пры рэдакцыі «Ніва» ужо ёсць значная колькасць «Руска-беларускіх слоўнікаў» апошняга акадэмічнага выдання.

Цана аднаго экземпляра — 28 зл. і 65 гр. Заказы можна прысылаць па пошце. (СЯ)



Я. Матэйка Бітва пад Грунвальдам

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



*Вадзяны млын у вёсцы Бандары, на Беласточчыне. Фото — А. Амільяновіч*

# Сяброўскія сустрэчы

Дарагімі гасцьмі Кафедры беларускай філалогіі пры Варшаўскім Універсытэце, а таксама Беларускага таварыства, была 19-ці асабовая група студэнтаў і выкладчыкаў Мінскага Дзяржаўнага Універсытэта імя В. Леніна.

У вечары, 21 чэрвеня на пероне Гданскага вакзала ў Варшаве выйшлі з кветкамі прывітаць дарагіх сяброў студэнты і выкладчыкі беларускай філалогіі і прадстаўнікі Беларускага таварыства. Надзвычай сардэчная была гэта сустрэча. Кінуліся сабе ў абдымы многія знаёмыя ўжо з пабыўкі ў мінулым годзе варшаўскіх студэнтаў у Мінску.

Наступная нядзельная сустрэча, якую сарганізаваў Варшаўскі аддзел Беларускага таварыства пакінула яе ўдзельнікам незабыўнае ўражанне. За адным сяброўскім сталом сядзела моладзь і старэйшыя — прадстаўнікі аднаго беларускага народа з двух падружыўшыхся краін— Совецкай Беларусі і Польскай Народнай Рэспублікі.

Першыя тосты спалучаюцца з прамовамі прадстаўнікоў Беларускага таварыства. Ад імя Мінскага Дзяржаўнага Універсітэта, ад імя гасцей, выступіў праф. М. Жыркевіч. За сталом знаёмяцца тыя, якія яшчэ дагэтуль былі незнаёмымі. Наступае — абмен адрасамі. Атмасфера становіцца ўсё больш сяброўскай. Сярод гасцей знаходзяцца вядомыя маладыя беларускія паэты Р. Барадулін і Г. Бураўкін, з якіх творчасцю беларуская моладзь у Польшчы пазнаёмілася на старонках беларускіх мінскіх часопісаў.

Прысутныя просяць прачытаць вершы. Скромным маладым паэтам не ўдаецца адмовіцца. Чытае свае прыгожыя лірычныя вершы Г. Бураўкін. Захапленням і воплескам няма канца. Асабліва дзяўчаты, захапляліся не толькі творчасцю маладога паэта, але і ім самым. Былі здаецца такія, якія ўжо паспелі нават закахацца.

Другім выступае Р. Барадулін. Яго вершы таксама лірычнага характару і вельмі ўдалыя. Малады паэт адчувае сабе надзвычай шчаслівым. Не толькі таму, што чытае свае вершы беларускім сябрам ў Польшчы. Ён мае за сабою паважныя жыццёвыя дасягненні. Перад самым ад'ездам у Варшаву здаў экзамены і з'яўляецца ўжо студэнтам пятага курса беларускай філалогіі, а самае галоўнае для яго, як маладога беларускага паэта гэта тое, што нядаўна застаўся прынятым у рады Саюза Беларускіх Пісьменнікаў.

Чыталі таксама свае вершы, хоць на пэўна многа слабейшыя, прысутныя на вечары маладыя беларускія паэты, пражываючыя ў Польшчы.

Пачулася танцавальная музыка з магнетафоннай плёнкі. Моладзі трудна ўсядзець за сталом. Яна ідзе танцаваць. Кружацца пары. У перапынках паміж танцамі моладзь спявае беларускія песні. Знайшліся таксама добрыя выканаўцы беларускага народнага танца «Лявоніха».

Толькі позняя ноч магла разлучыць падружыўшыхся сяброў. Госці ў часе сваёй пабыўкі ў Польшчы пазнаёміліся з Варшавай, Кракавам, Закапаным, пазнаёміліся з гістарычнымі памятнікамі польскай культуры, з дасягненнямі Польскай Народнай Рэспублікі.

28 чэрвеня ў Галоўным Праўленні Таварыства польска - совецкай дружбы адбыўся развітальны вечар. Госці ад'ехалі ў сваю дарагую сталіцу — Мінск і павязлі ў сваіх сэрцах незабыўныя ўражанні з пабыўкі ў нашай краіне, а маладыя паэты новыя тэмы да сваіх мастацкіх твораў.

Пакідаючы Варшаву госці былі ўпэўнены ў тым, што гэта не апошняя сустрэча, што яшчэ не раз давядзецца ім пабываць у нашай краіне. Таму ўсім развітаўшымся хочацца пажадаць: да новай сустрэчы — дарагія сябры!

В. Ш.

# Знаёмімся з перакладчыкамі беларускай паэзіі ў Польшчы

У Польшчы ёсць невялікая група паэтаў, якія займаюцца перакладамі беларускай паэзіі. Сярод іх вылучаюцца асабліва Р. Квяткоўскі, Л. Левін, К. Яворскі, Б. Жыранік, Э. Лапскі і А. Цэсаж.

Параўнальна мала вядомым перакладчыкам з'яўляецца працаўнік Польска - Савецкага інстытута ў Варшаве, Анджэй Цэсаж, які рэдка змяшчае свае пераклады ў друку. Некаторыя яго пераклады з беларускай паэзіі, а таксама беларускай прозы з'яўляліся на старонках варшаўскага друку, у прыватнасці, у часопісе «Пшыязнь», газетах «Жолнеж вольносці» і «Экспрэс вечорны». У мінулым годзе, напрыклад, «Пшыязнь» змясціла пераклад апавядання Я. Брыля «Сэрца камуніста».

Пекарладчыцкай працай займаецца Цэсаж ужо амаль дваццаць гадоў. Асаблівую ўвагу прыцягвае яго руская паэзія. У пасляваенны перыяд Цэсаж пачаў перакладаць таксама творы беларускіх пісьменнікаў: Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка, П. Броўкі, П. Глебкі, А. Астрэйкі, Р. Няхая, В. Віткі. Сярод яго неапублікаваных перакладаў знаходзяцца наступныя вершы: «А ў Вісле плавае тапелец», «Памяці Максіма Горкага» — Купалы, «Наша справа пераможа»—Коласа, «Ленін з намі» — Танка, «Пад небам радзімы» — Глебкі, «Слуцкі пояс» — Астрэйкі.

Асабліва добрымі перакладамі з'яўляюцца два: «Памяці Максіма Горкага» — Купалы і «Ленін з намі» — Танка. У іх Цэсаж здолеў удала данесці да чытача аўтарскую задуму і перадаць сродкамі польскай мовы дух і ідэю арыгінала. У перакладзе верша Купалы бачым правільны выбар выяўленчых сродкаў, дзякуючы чаму чытач жыва ўспрыймае яго сільны, эмацыянальны твор.

Анджэй Цэсаж цікавіцца таксама і беларускай прозай. Асаблівую сімпатыю жывіць ён да заснавальніка беларускай прыгодніцкай аповесці Янкі Маўра, 75-годдзе з дня нараджэння якога нядаўна адзначаў народ.

Некалькі гадоў таму назад Цэсаж збіраўся перакласці для выдавецтва «Іскры» вядомы раман Маўра «Амок», прысвечаны гераічнай барацьбе інданезійскага народа супроць імперыялістычнай Галандыі. Аднак паводле меркавання рэцэнзентаў гэты раман не карыстаўся-б поспехам сярод чытачоў. Трэба вельмі шкадаваць, што гэты пераклад не ўбачыў свету. Гэта-ж сапраўды цікавая і хвалюючая кніга пра далёкую краіну, якая ў 1926 г. узнялася на барацьбу супроць сваіх прыгнятальнікаў. У творы поўнасцю раскрыўся талент аўтара, здолеўшага па мастацкі спалучыць фантазію з гістарычнай праўдай. У аснову твора былі пакладзены гістарычныя факты.

Маўр у пісьме да Цэсажа ад 3 сакавіка 1955 г. пісаў: «Раман «Амок» напісаны 27 гадоў таму назад. У аснову яго пакладзены факты, каторыя я атрымаў, як эсперантыст непасрэдна з Явы, а таксама з Галандыі. Захоп карабля. Суд над рыбакамі. Карціны каланіяльнага прыгнёту, нават некаторыя імёны з'яўляюцца аўтэнтычнымі».

Сваю перакладчыцкую працу спалучае Цэсаж з навуковымі доследамі. Ён цікавіцца адносінамі А. Міцкевіча да беларускага фальклору і справай першых перакладаў «Пана Тадэуша» на беларускую мову.

Улічваючы той факт, што гэтым пытанням ніхто ў Польшчы не прысвячае сур'ёзнай увагі, доследы Цэсажа трэба лічыць цэннымі. Як сам адзначае, зацікаўленне беларускай паэзіяй у яго было выклікана доследамі над пытаннем «Міцкевіч на Беларусі».

М. К.

**Янка Купала**

## Pamięci Maksyma Gorkiego

Tyś prześpiewał swą pieśń o sokole,
Świat swym burzy zwiastunem poruszył.

Twych oczu przejasnych jutrzenka promienna,
Jak dotąd świeciła, tak świeci, płomienna.
I będzie tak płonąć wspaniałym szkarłatem
Dla wszystkich pokoleń i czasów nad światem.

Jej blaski na krańcach zabłysną ucisku
Dla wszystkich narodów, co żyją w wyzysku,
By z drogi nie zboczyć jedynej, prawdziwej,
Ażeby w tej woli móc wytrwać szczęśliwej.

Twe myśli tak jasne, jak niebo, jak morza,
Jak w polu na wiosnę młodego kłos zboża.
Za rozmach ich orli, ich polot i zaród
W swych sercach i myślach przechowa je naród.

Twój głos tak serdeczny i miły jak struny
Harf dźwięcznych lub liry, spokojny, rozumny.
Słyszałem ja głos ten i sercem okrzepłem;
Niedawno się jego cieszyliśmy ciepłem.

On ludzi przyzywał na trakt ów szeroki,
Co godnym się stanie współczesnej epoki, —
On uczył na słońce spoglądać tak śmiało
I słowo wykuwać, by miedzią dźwięczało.

Spotkałeś mnie wówczas, mój jasny sokole,
Gdy mrok jeszcze w kraju buszował do woli
I jęk się rozlegał i serca schły wszędzie
A nocy, zdawało się, końca nie będzie.

Lecz tyś zauważył mnie orlim swym wzrokiem,
Gdym ja, zahukany, nieśmiałym szedł krokiem,
Słuchałeś mej pieśni, pochwałą obdarzył:
Jam nigdy o takiej radości nie marzył.

Przez gąszcze i błota ta pieśń się zrywała,
Bo z nędznych obszarów Polesia wstawała.
„Któż idzie tam?..“ — głos mój był bliski i ludzki
Jam naród opiewał z mych stron, białoruski.

Jak dzisiaj inaczej! Ni jęków ni płaczu.
Mój kraj stał się młodszy, dorodny, bogatszy
I dźwięczy pieśniami, pozbywszy się cierni...
Cóż dzisiaj za data — czy maj, czy październik?

Białoruś, zrzuciwszy ciemiężców kajdany,
Gdy los jej wspaniałe zgotował odmiany,
Pamięta o bliskich; o swym przyjacielu
Wspomina z miłością, nasz nauczycielu.

Пераклаў АНДРЭЙ ЦЭСАЖ

## З дзён польскай культуры ў Беларусі



*Плакаты польскіх фільмаў на вуліцах Мінска. фото — М. Гайдук.*

## Фізкультура ў БССР

Цяпер у БССР налічваецца 10.623 калектываў фізкультуры, у якіх аб'ядноўваецца 1 мільён 22 тысяч фізкультурнікаў. У радах фізкультурнай арганізацыі рэспублікі 295 майстраў спорта, 1.555 спартсменаў першага разрада і больш 80 тысяч спартсменаў другіх разрадаў. Сярод беларускіх спартсменаў — 11 рэкардсменаў і чэмпіёнаў свету і Еўропы, 11 спартсменаў чэмпіёны Совецкага Саюза.

На ўвесь свет праславіліся беларускія спартсмены Міхаіл Крываносаў — уладальнік сусветнага рэкорда па кіданню молата, Марыя Іткіна — рэкардсменка свету ў бегу на 400 метраў, Альжбета Ярмалаева — чэмпіёнка СССР і пераможац кроса 1958 года на прыз. газеты «Юманітэ», чэмпіёны СССР і Еўропы Валянцін Наумаў і Аляксандр Маркаўцаў, цяжкаатлет чэмпіён Еўропы і рэкардсмен Яўгень Новікаў, пераможац міжнародных спаборніцтваў па лёгкай атлетыцы у Румыніі і Францыі Таццяна Аўрамава і іншыя. У апошнія гады беларускія спартсмены шырока выйшлі на міжнародную арэну. Лепшыя з іх 69 раз выязджалі заграніцу і выступалі ў 28 краінах. Толькі ў мінулым годзе ў сябе на радзіме беларускія спартсмены правялі 12 міжнародных сустрэч. За 1957 год беларускія спартсмены заваявалі ў міжнародных спаборніцтвах 29 медаляў, у гэтым ліку 22 залатых.



*Альжбета Ярмалаева.*

**Мгр В. Белаказовіч**

5

# Рэвалюцыйны рух на Беласточчыне,

### так званага, снежаньскага перыяду

Многа месца ў «Правілах» адводзіцца вызначэнню задач і абавязкаў начальніка. «Начальнік кіруе таварыствам, пашырэнне якога і бяспека, будуць складаць яго галоўную турботу.

Начальнік мае пад сваім непасрэдным распараджэннем і захаваннем пастановы, архіў, грамадскую суму, з якой палову можа ўжыць па свайму самавольству, не аддаючы ў тым справаздачы перад таварыствам, у другой-жа палове аддае справаздачу камісіі кожныя поўгода.

Начальнік, акрамя звычайных пасяджэнняў, можа вызначыць экстраныя агляды, на якіх робіць прапанову і ў выпадку якой-небудзь нязгоды мае за сабою два галасы.

Начальнік вызначае складчыны, якія бываюць трох відаў, г. зн. звычайныя, экстраныя і добраахвотныя. Звычайныя запісваюцца пад назвай атрыманых даўгоў, экстраныя пад назвай узятых у доўг, для добраахвотных-жа ні даты ні часу не вызначаецца: усякі па магчымасці і жаданню сваім робіць іх, і падзяка таварыства будзе яго узнагародай.

У выпадку патрэбы, неабходнасці начальнік можа выкарыстаць усю суму, у чым, аднак, не абавязаны аддаваць справаздачу камітэту праз поўгода.

Пры відавочнай небяспецы начальнік знішчае ўсе паперы, якія належаць да таварыства без усякага за гэта адказу.

Начальнік вызначае заняткі членам і нават можа даць без ведама камітэта каму-небудзь з іх даручэнне, калі яму паведамяць пасля заканчэння справы аб сродках і поспеху.

Загад начальніка ва ўсякім выпадку выконваецца свята і безагаворачна».

(ФЦДВГАЛ, ф. 9, ад. хр. 45, г. з. лл 970—971).

Далей у «Правілах» таварыства пералічваюцца абавязкі членаў таварыства. На першы план ставіцца задача ўцягнення новых членаў. Падрабязна тлумачыцца, якім шляхам гэта павінна адбывацца. Члены першай ступені ўцягваюць новых членаў у першую і другую ступені, члены-ж другой ступені павінны старацца пашырыць сваю арганізацыю і ўцягнуць новых членаў у арганізацыю трэцяй ступені. Кожная ступень арганізацыі мела сваю бібліятэку, складзеную з кніг, купленых і ахвяраваных членамі. Зусім зразумела, што ні адукацыя, ні ўзаемная дапамога не вычэрпвалі планаў таварыства.

Супрацоўніцтва рускіх, палякаў, беларусаў і ўкраінцаў грунтавалася на агульнай нянавісці да царскага дэспатызму. М. Рукевіч умела выкарыстоўваў сімпатыю маладых рускіх афіцэраў да Польшчы, шырока пашыранаю ў гэтыя гады сярод прагрэсіўных колаў рускага грамадства. Можна дапусціць, што не па ўсіх пытаннях думкі ў іх былі ўзгоднены. Рукевіч узмоцнена прапагандаваў ідэю ўз'еднання беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх зямель з Каралеўствам Польскім пад начальствам вялікага князя Канстанціна. Але-ж ці можна на падставе гэтага сцвярджаць, як гэта робіць Л. Баумгартэн у сваёй кнізе «Дзекабрысты і Польшча» (Варшава, 1952, ст. 173—174), што М. Рукевіч, будучы адданым шляхецкай волі і наслядуючы старым традыцыям, выказваў толькі кансерватыўныя тэндэнцыі? Не, гэтага сцвярджаць нельга. Несумненна, успаміны аб былой магутнасці шляхты ў Рэчы Паспалітай прымушалі мястэчковую шляхту імкнуцца да ўтварэння польскай дзяржавы ў былых межах. Цікава было-б адзначыць, што сярод буйных памешчыкаў Беларусі, Літвы і Украіны не было аднадушнай цягі да Каралеўства. Частка памешчыкаў баялася пашырэння на гэтыя землі дэкрэта 1807 года аб адмене прыгоннага права, а таксама іншых дзяржаўных устаноў канстытуцыйнай дзяржавы. Гэтага, зразумела, не баяліся ні дробная шляхта, ні беззямельныя шляхціцы, ні інтэлігенцыя, ні буржуазныя элементы горада. Рукевіч, як вядома, належаў да дробнай шляхты. Прадстаўнікі вышэй указаных колаў хацелі палітычных і соцыяльных рэформ, набыцця больш шырокіх правоў і новых магчымасцей знайсці сабе выкарыстанне ў дзяржаўным апараце, у школе, судзе, арміі. Яны спалучалі свае надзеі з існаваннем і ўмацаваннем канстытуцыйнага ладу ў Каралеўстве і разлічвалі, што пашырэнне тэрыторыі Каралеўства ўмацуе яго становішча перад тварам царызма.

Для высвятлення пазіцыі М. Рукевіча ў гэтым пытанні неабходна ўлічваць таксама той факт, што ў першай палове XIX стагоддзя ўсё яшчэ мела сілу атоесамліванне польскай нацыі з польскай дзяржавай у яе межах да падзелаў, г. зн. да 1772 года. Многія перадавыя прагрэсіўныя прадстаўнікі польскага грамадска-палітычнага руху, у тым ліку і М. Рукевіч, не думалі аб тым, што землі, аб далучэнні якіх яны гаварылі, былі няпольскімі землямі, што нацыянальныя імкненні іх насельніцтва супярэчылі праектам іх новага ўключэння ў склад Польшчы. (Праціг на стар. 6)

